**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года | 16 (524) 22 красавіка 2010 года | Кошт **свабодны**

Фота Ул. Скрабатуна



На Мядовым фэсце.

# Áåëàðóñêàå ðàäû¸ ðûõòóå ïåðàäà÷ó ïðà Ãëûáîêàå

■ Уладзімір Скрабатун

**Журналістку Наталлю Буландо зацікавіў аповяд калекцыянера Алеся Шэлепня пра знаходкі манетаў часоў ВКЛ.**

Беларускае Радыё (канал "Культура") рыхтуе перадачу пра Глыбокае. З гэтай нагоды прыехала журналістка Наталля Буландо. Гэта перадача пра тое, як прыехаўшы ў нейкі горад (напрыклад Глыбокае) і не зайшоўшы ў музей, можна спазнаць яго гісторыю, дух мінулага, традыцыі.



**На здымку:** *Лепшага экскурсавода і знаўцу глыбоцкага Кафедральнага сабора як Юрый Калбасіч, наўрад ці знойдзеш на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Яго аповяды ўражваюць глыбінёй ведання тэмы.*

# Íîâûÿ ñòà¢ê³ àäç³íàãà ïàäàòêó ïà÷àë³ äçåéí³÷àöü ó Â³öåáñêàé âîáëàñö³

■ Сяржук Серабро

**З 11 красавіка ў Віцебскай вобласці дзейнічаюць новыя стаўкі адзінага падатку для індывідуальных прадпрымальнікаў і фізічных асоб, прынятыя рашэннем Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў ад 18.03.2010 №211 "Пра ўсталяванне ставак адзінага падатку з індывідуальных прадпрымальнікаў і іншых фізічных асоб".**

Галоўным чынам адзіны падатак вырас на 10-15%, толькі на некаторыя віды дзейнасці ён зніжаны на 5-10%. У лідэрах па росце стаўкі пасутачная здача кватэры ў найманне - за здачу адна- і двухпакаёвай кватэры прыйдзецца выплаціць у пераліку 34 еўра замест 22 (каля 53%), а калі пакояў больш, то 50 замест 27 (амаль 85%). Таксама значна павялічыўся падатак на гандаль дзіцячым абуткам і школьнымі прыладамі - прыкладна на 56 і 59% адпаведна. Уладальнікам таксі, якія працуюць і ў начны час, зараз прыйдзецца выплачваць 113 еўра замест 78 (45%), калі ў машыне да шасці пасажырскіх месцаў, і 121 еўра замест 91 (32%).

Стаўкі адзінага падатку для індывідуальных прадпрымальнікаў і фізічных асоб усталяваны ў рублях, таму прыведзеныя вышэй лічбы ў еўра могуць змяняцца, у залежнасці ад курсу. Цалкам з рашэннем аблсавета можна азнаёміцца на сайце падатковай інспекцыі.

# Ó Íàâàïîëàöê ïðûåõà¢ Óëàäç³ì³ð Ïóö³í

■ Зміцер Дзежыц

**Праўда, не асабіста расійскі прэм'ер - а толькі яго васковая постаць.**

Навапалачане і госці горада атрымалі шанец паглядзець на вядомых палітыкаў і авантурнікаў, цароў і самазванцаў, геніяў і злыдняў. У выставачнай зале Музея гісторыі і культуры горада адкрылася выстава васковых постацяў "Знакамітыя людзі гісторыі".

Сярод 30 экспанатаў - Пуцін і Пётр I, Моцарт і Сальеры, Пушкін і Дантэс, Сталін і Гітлер, маркіз дэ Сад і барон Мюнхаузэн. Усе постаці прадстаўлены Санкт-Пецярбургскім тэатрам васковых постацяў.

"Гэта экспазіцыя вельмі папулярная сярод навапалачан, - распавяла "Хіміку" навуковы супрацоўнік навапалацкага музея Вера Шушко. - Наведвальнікі могуць увачавідкі ўбачыць постаці вядомых гістарычных асоб. Для дзяцей праводзяцца экскурсіі. Нашы супрацоўнікі падрабязна распавядаюць пра выстаўленыя персанажы, іх унёскі ў гісторыю, а таксама пра тэхніку выраба васковых постацяў".

Дарэчы, самы вядомы ў свеце музей васковых постацяў - "Музей васковых постацяў мадам Цюссо" ў Лондане. Яго філіялы ёсць у шматлікіх буйных гарадах, уключаючы Берлін і Нью-Ёрк. Вядомыя палітычныя дзеячы, сусветныя зоркі і героі вось ужо больш 130 гадоў "жывуць" у гэтым музеі.

Экспазіцыя будзе дэманстравацца ў выставачнай зале Музея гісторыі і культуры Наваполацка да 9 траўня.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Ëå÷ûöü ³ áîñêàå ñëîâà

■ Кастусь Александровіч

**На працягу апошніх дзесяцігоддзяў пасля панавання бязглуздага ваяўнічага атэізму на нашай зямлі людзі зноў пачалі вяртацца да сваіх духоўных каранёў і хрысціянскай веры.**

На тэрыторыі Пастаўскай цэнтральнай раённай бальніцы яшчэ ў 2006 годзе пры дапамозе мэблевага цэнтра ўзвялі і асвяцілі каплічку. Праўда, памяшканне было невялічкае і маглі зайсці памаліцца толькі некалькі чалавек. Таму адміністрацыя райбальніцы выдзеліла ў адным з памяшканняў палаца Тызенгаўза месца для прасторнай капліцы для каталіцкіх вернікаў Маці Божай Аздараўленне хворых. Святыню зрабілі на ахвяраванні хрысціян, частку расходаў узялі на сябе медыкі. Новую капліцу спецыяльна прыехаў асвяціць ксёндз-біскуп Віцебскай дыяцэзіі Уладзіслаў Блін. На ўрачыстай цырымоніі прысутнічаў таксама дэпутат беларускага парламента Эдуард Казура і прадстаўнікі раённага кіраўніцтва. Сюды ў вызначаны час будуць прыязджаць святары, адпраўляць Богаслужэнні, спавядаць хворых пацыентаў. На гэтым у калектыве медустановы спыняцца не збіраюцца, тут будзе такая ж капліца і для вернікаў праваслаўнай канфесіі. Акрамя лекаў і ўрачоў можа дапамагчы хворым і духоўная падтрымка, супакой душэўны, які дае вера ў Бога.

ÂÛÁÀÐÛ-2010

# Ó Ñàâåòû - ñëàáû êîíêóðñ

■ Станіслаў Раманчук

**У адрозненне ад папярэдніх, цяперашняя выбарчая кампанія па абранню мясцовых Саветаў крыху ажывілася і стала больш падобнай на выбары.**

Аднак асабліва ў сельскай мясцовасці ўжо зараз можна назваць іх вынікі і імёны пераможцаў, паколькі на 1 мандат прэтэндуе па 1,1 прэтэндэнта. Нейкая інтрыга захоўваецца толькі на выбарах у Віцебскі абласны Савет дэпутатаў, дзе на 60 мандатаў прэтэндавалі спачатку 114 жадаючых. Аднак у рэгістрацыі кандыдатамі ў дэпутаты было адмоўлена 11 прэтэндэнтам. Па 7 пададзеных ісках абласны суд пацвердзіў абгрунтаванасць такіх адмоў. Аднаго кандыдата па Гагарынскай выбарчай акрузе № 46 у абласным цэнтры Васіля Рубаніка, пасля разгляду яго скаргі наконт адмовы ў рэгістрацыі, зарэгістравалі. Яшчэ 3 зарэгістраваныя кандыдаты знялі свае кандыдатуры. Цікава, што трапіць у абласны "парламент" прэтэндуе нават адзін грамадзянін Расіі. Не назіралася і вялікай актыўнасці ў перадвыбарчай агітацыі сярод прэтэндэнтаў на дэпутацкія крэслы на грамадскіх пачатках. Толькі ў мясцовым друку можна было азнаёміцца са звесткамі аб даходах і маёмасці кандыдатаў, паслухаць іх выступленні па абласному і раённых радыё. Самае сумнае, што ў многіх акругах няма ніякай канкурэнцыі, частка кандыдатаў ад апазіцыі знялі свае кандыдатуры.

Ëåïåëüñê³ ðà¸í

# Ïðûâ¸ç ñíàðàäû … ó ðàéçàã

■ Чэслаў Якубовіч

**На што толькі не ідуць асобныя нашы суайчыннікі, каб недзе дастаць грошай ды зноў апахмяліцца.**

Падобны на анекдатычны выпадак быў зафіксаваны днямі ў Лепелі, які пры пэўных абставінах мог завяршыцца і бядой. Любіцелю часта прылажыцца да чаркі жыхару вёскі Бораўна, што паблізу райцэнтра, прыйшла ў галаву ідэя здаць на металалом знойдзеныя ім боепрыпасы. Вясковец запрог каня, пагрузіў на падводу міну і яшчэ 13 снарадаў, прысыпаў груз крыху сенам, каб было мякчэй ехаць у горад. Не разгубіўся ён і на тэрыторыі нарыхтоўчага пункта раённай нарыхтоўчай канторы, калі там было багата кліентаў у чарзе. Так і не працверазеўшы мужчына папрасіў яго прапусціць, бо прывёз не абы што, а сапраўдныя снарады. Прыемшчыца не разгубілася і адразу выклікала нарад міліцыі. Такога незвычайнага наведвальніка склада адразу забралі ў райаддзел міліцыі. Каня прыйшлося выпрагчы, а небяспечны груз – пакінуць пад аховай. Разбірацца са смертаноснай знаходкай неўзабаве прыехалі сапёры з ваеннай часці Полацкага гарнізона.

Спецыялісты пацвердзілі, што савецкая міна, некалькі нямецкіх снарадаў і астатнія вучэбна-трэніровачныя былі без траціла. Але зброя была начынена порахам, мела цэлыя капсюлі і магла ўзарвацца. Дарэчы, гэты ўвесь груз сапёры потым знішчылі ў бяспечным для людзей месцы.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| | чацвер 22.04.10 | | | | пятн.23.04.10 | | | суб. 24.04.10 | | нядз.25.04.10 | | 26.04. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +2 | +3 | +7 | +4 | -1 | +1 | +5 | +1 | +8 | -1 | +12 | +1 | +11 |
| Ціск, мм | 736 | 736 | 736 | 738 | 738 | 739 | 742 | 746 | 748 | 754 | 755 | 758 | 760 |
| Вільготнасць, % | 95 | 82 | 54 | 69 | 88 | 90 | 69 | 80 | 51 | 89 | 27 | - | - |
| Вецер м/сек | З 3 | З 3 | З 5 | Ю-З 3 | З 5 | Ю-З 6 | З 7 | Ю-З 3 | З 5 | С-З 2 | З 6 | С 4 | С 3 |

## Äçåíüçàäí¸ì

**Кіраўніцтва Беларусі паабяцала экспертам МВФ і Сусветнага банка паскорыць у гэтым годзе працэс прыватызацыі. Да пачатку лета ў краіне павінны стварыць Нацыянальнае агенства інвестыцый і прыватызацыі, а да 1 ліпеня – прыняць адпаведны закон.У гэты перыяд могуць быць выстаўлены на продаж кантрольныя пакеты акцый 20 беларускіх ААТ. Замежныя эканамісты адзначаюць станоўчыя зрухі ў эканоміцы Беларусі ў 2009 годзе, аднак сітуацыя рэзка пагоршылася сёлета з-за новых умоў паставак расійскай нафты.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Польшча.** Пасля тыднёвай жалобы краіна развіталася на велічнай цырымоніі пахавання з прэзідэнтам Л. Качыньскім, яго жонкай і іншымі ахвярамі авіякатастрофы ў Смаленску.

**Кіргізія.** На фоне росту цэн, масавай карупцыі, расслаення грамадства ў краіне прайшлі масавыя сутыкненні з сілавікамі, адна Расія аказала падтрымку новаму часоваму ўраду.

**Расія.** Краіна, як заявіў кіраўнік МЗС РФ С. Лаўроў, пакідае за сабой права выйсці да 2020 г. з новага Дагавора з ЗША аб скарачэнні стратэгічных наступальных узбраенняў.

**Бразілія.** Магутныя лівні выклікалі па краіне шматлікія падтапленні і зыход земляных мас, матэрыяльныя страты, толькі ў штаце Рыо-дэ-Жанейра загінула больш 100 чалавек.

**Кітай.** Ва ўзросце 102 гады ўпершыню ў жыцці пайшла ў школу жыхарка правінцыі Цзінань Ма Сісіань, якая выгадавала 9 дзяцей, большасць з якіх атрымалі вышэйшую адукацыю.

**ЗША.** МВФ з-за сітуацыі з пастаўкамі расійскай нафты рэкамендаваў уладам Беларусі не мяняць макраэканамічную сітуацыю напярэдадні выбараў, панізіў рост ВУП да 2,4 %.

**Польшча.** Грамадскасць краіны высока ацаніла заяву прэм'ер-міністра РФ У. Пуціна, які на мемарыяле "Катынь" асудзіў рэпрэсіі і масавыя забойствы тут польскіх афіцэраў.

**Кітай.** З-за таннай рабочай сілы краіна па золатавалютных рэзервах – каля 2 трлн. USD – апярэдзіла Японію і выйшла на першае месца ў свеце па гэтаму паказчыку.

**Эстонія.** Па новаму закону ў краіне паступова павялічваюць пенсійны ўзрост для выхаду на пенсію для абодвух палоў – 65 гадоў, цяпер мужчыны ідуць тут на пенсію ў 63 гады.

**Францыя.** Аўтаканцэрн "Peugeot-Citroen" сумесна з японскім "Mitsubishi" пабудаваў свой аўтазборачны завод у РФ паблізу Калугі, магутнасць 1-й чаргі да 45 тыс. аўто штогод.

**Расія.** Намеснік старшыні праўлення ААТ "Газпрам" Андрэй Круглоў пацвердзіў, што расійская кампанія імкнецца атрымаць кантрольны пакет акцый ААТ "Белтрансгаз".

**Кітай.** Цудам выратаваліся болей 100 шахцёраў, якія больш тыдня правялі на глыбіні пад зямлёй у затопленай вадой шахце, у выратавальнай аперацыі ўдзельнічалі 3 тыс. чалавек.

**ЗША.** Касмічны тэлескоп WISE Массачусетскага ўніверсітэта выявіў адразу 16 новых астэроідаў, якія знаходзяцца ў небяспечнай блізасці ад Зямлі, адзін можа ўпасці ў 2029 г.

**Украіна.** Прэзідэнт УЕФА Мішэль Плаціні абверг чуткі, што ўкраінцы могуць пазбавіцца права правядзення чэмпіянату Еўропы па футболе 2012 года, яго прымуць 4 ці 2 гарады.

**Польшча.** Усе рыцарскія клубы Беларусі запрошаны на свята 600-годдзя Грундвальдскай бітвы 15-18 ліпеня, дзе адбудзецца рэканструкцыя гэтай значнай гістарычнай падзеі.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** У Беларусі сёлета, як паведаміла міністр працы і сацабароны М. Шчоткіна, будзе абавязкова павышана стаўка 1-га разрада для павышэння зарплаты бюджэтнай сферы.

**Брэст.** На рынку "Стары горад" прайшоў стыхійны мітынг прадпрымальнікаў, незадаволеных жорсткімі дзеяннямі кантрольных органаў з-за адрыўных талонаў.

**Мінск.** Вядомы амерыканскі аўтагігант, кампанія Ford прапанавала зноў арганізаваць у Беларусі зборачную вытворчасць сваіх аўтамабіляў, што дапаможа пашырыць іх збыт.

**Бабруйск.** У ліку першых 5 прадпрыемстваў РБ на продаж выстаўлены дзяржпакет 50 % + 1 акцый мясцовага машынабудаўнічага завода з захаваннем персаналу 1187 чалавек.

**Пінск.** Пасля закрыцця на паўмесяца з-за ўспышкі сальманалёзы дзетсада № 29 з працы звольнілі загадчыцу і яшчэ 5 чалавек, праверкі выявілі парушэнні ў 68 з 182 дзетсštаноў.

**Мінск.** Назіраць за прадстаячымі выбарамі дэпутатаў мясцовых Саветаў упершыню будуць прадстаўнікі міжнародных назіральнікаў з 18 краін свету.

**Гомель.** Пасля рэзкага пад'ёму ўзроўню вады ў рацэ Сож у абласным цэнтры аказаліся падтопленымі больш 10 вуліц, кругласутачна прыйшлося задзейнічаць спецтэхніку.

**Мінск.** На базе 9-й гарадской бальніцы адкрыўся сучасны Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр трансплантацыі органаў і тканак, які каштаваў дзяржаве 106 млрд. руб.

**Мазыр.** Цікавасць удзельнікаў выставы "Адпачынак-2010" выклікаў новы 6-дзённы турмаршрут "Беларускія акварэлі" з наведваннем "Сафары-парка" на рацэ Прыпяці.

**Мінск.** Дырэкцыя Рэспубліканскага тэатра юнага гледача не стала прадаўжаць кантракт з галоўным рэжысёрам Наталляй Башавай з-за творчага расколу ў тэатральнай трупе.

**Гомель.** На домабудаўнічым камбінаце ўвялі ў эксплуатацыю сучасную лінію буйнапанэльных дамоў, што дазволіць узводзіць у горадзе жыллё нават у 22-павярховых.

**Бяроза.** За спробу скрасці з рыбгаса "Сялец" паўтоны рыбы карпу суд пакараў 6 месяцамі арышту двух былых супрацоўнікаў райаддзела міліцыі і прыватнага прадпрымальніка.

**Мінск.** "Рэальных выбараў у Рэспубліцы Беларусь па-ранейшаму няма" – з такой заявай выступілі прадстаўнікі апазіцыйных партый і рухаў, прадпрымальнікі зняліся з гонкі.

**Ліда.** У горадзе пачата рэканструкцыя першага замка Вялікага княства Літоўскага, да "Дажынак" паспеюць закончыць першы этап работ, а поўнасцю завяршыць у 2012 годзе.

**Ляхавічы.** На вуліцы імя славутага земляка, кінарэжысёра М. Пташука ў райцэнтры ўрачыста адкрылі мемарыяльную дошку, яшчэ адна з'явілася на доме ў яго роднай вёсцы.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûáåëàðóñê³õ ïàäçåé

**Віцебск.** Вынікі 3-гадовай санацыі не прынеслі плёну мехавому камбінату, яго даўгі перавышаюць 14 млрд. рублёў, станкі даўно выпрацавалі свой рэсурс, збыт слабы.

**Коханава.** На заводзе "Белтрубпласт" пачалі выпуск унікальных для Беларусі буйных палімерных гафрыраваных труб для безнапорных сістэм каналізацыі, раней завозілі з РФ.

**Верхнядзвінск.** На базе райаграсервіса прайшоў семінар-прэзентацыя 7 навінак тэхнікі прадпрыемства "Амкадор", выпускаемых для сельгаспрадпрыемстваў Віцебшчыны.

**Віцебск.** Адразу 3 дыпломы пераможцаў нацыянальнага прафесійнага конкурса-дэгустацыі "Густ-2010" атрымалі паўфабрыкаты Віцебскага мясакамбіната "МясакаВіт".

**Полацк.** У культурнай сталіцы краіны далі канцэрты салісты беларускай оперы, Нацыянальны канцэртны аркестр і славуты хор імя Цікоцкага з новай праграмай.

**Віцебск.** Кіраўнік вобласці А. Косінец даручыў штогод перасяляць са старых праблемных дамоў-баракаў у камфортныя кватэры ў абласным цэнтры па 150-200 сем'яў.

**Сянно.** У аграгарадку Барданава ў будынку былой гасцініцы адкрылі другі ў раёне інтэрнат-пансіянат для пастаяннага пражывання адзінокіх старых людзей і інвалідаў на 32 месцы.

**Лёзна.** З пачатку года ў райвыканкам паступіла ўжо 136 заяў аб аказанні адраснай сацыяльнай дапамогі ад бедных няпоўных і шматдзетных сем'яў, больш 30, чым летась.

**Віцебск.** Дагэтуль знаходзіцца ў рэанімацыі 5-гадовы хлопчык, на якога зваліўся лёд з даху дома, сваіх пасад пазбаўлены пасля НЗ кіраўнікі гаркамунгаса, ЖЭУ № 6 і № 11.

**Глыбокае.** У райцэнтры выпадкова 5-гадовы хлапчук, гуляючы дома з новай "цацкай", параніў руку з пнеўматычнай стрэльбы бацькі свайго малодшага трохгадовага брата.

**Орша.** Скончыў жыццё самагубствам 17-гадовы школьнік-інвалід 1-й групы, вучань 11 класа, які скочыў уніз з акна 9-га паверха свайго жылога дома і разбіўся насмерць.

**Чашнікі.** З вялікім поспехам прайшлі ў раёне сустрэчы з зямлячкай, вядомай у Еўропе мастачкай Вольгай Дзёмкінай, якая з Францыі прывезла для паказу 33 свае карціны.

**Віцебск.** XIX "Славянскі базар у Віцебску" пройдзе сёлета з 9 па 15 ліпеня, аблвыканкам зацвердзіў план падрыхтоўкі і адмысловага светлавога афармлення ўсіх мастоў горада.

**Сянно.** Вучань Багушэўскай СШ № 1 Мікіта Ганчараў стаў адным з пераможцаў рэспубліканскага конкурса "Энергамарафон" за стварэнне энергазберагальнага дома.

**Віцебск.** На працягу двух тыдняў у віцебскім Доме кіно працавала фотавыстава Белта "Пераможцы", на якой прадставілі 70 шырокафарматных партрэтаў беларускіх салдат.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**25** столькі медалёў, як было заяўлена на нядаўнім алімпійскім сходзе ў Мінску, павінны даць краіне беларусы на чарговых летніх Алімпійскіх гульнях 2012 года ў Лондане. Пры гэтым А. Лукашэнка запатрабаваў ад Мінспорта і турызму, кіраўнікоў усіх айчынных спартыўных федэрацый, атлетаў і іх трэнераў абавязкова прывезці адтуль 5 залатых узнагарод. Апетыт расце і на будучай зімовай Алімпіядзе ў Сочы, спартыўная галіна павінна атрымаць ужо 5 медалёў, што дазволіць Беларусі ўвайсці ў дзесятку лепшых спартыўных дзяржаў свету.

Сапраўды, дагэтуль наша краіна стабільна выступаючы на галоўных спаборніцтвах чалавецтва – Алімпіядах, уваходзіла ў лік 20 лепшых нацыянальных зборных. Але гэтага аказалася мала вышэйшаму кіраўніцтву дзяржавы і прыбавіліся новыя максімальныя задачы. Аднак у спорце вышэйшых дасягненняў нешта планаваць пры звышвысокай канкурэнцыі – справа марная і безнадзейная. Усе спартсмены хочуць выйграць і нават пры выдатнай форме часта прайграюць яўныя фаварыты, а наперад выходзяць тыя, на каго мала хто спадзяваўся.

Лепей было не ствараць ажыятажу вакол такіх задач, рыхтавацца спакойна і мэтанакіравана да выступленняў на тым жа туманным Альбіёне. Але ў нас чамусьці не могуць без шуміхі. Пабудавалі некалькі сучасных спартыўных аб'ектаў і дзесятак лядовых арэн і замахнуліся на прарыў, які ажыццявілі на сусветнай арэне Кітай і Карэя. Пры гэтым ніхто не ўлічвае такія фактары, як эканамічны і чалавечы патэнцыял, узровень агульнай культуры і ментальнасці.

Адкуль у нас будуць брацца столькі моцных спартсменаў і моцных зборных каманд, калі толькі чвэрць беларускіх школьнікаў поўнасцю здаровыя, нараджальнасць невысокая. Апроч прафесійнага спорту безліч праблем у фарміраванні здаровага ладу жыцця нацыі. Колькі яшчэ школьнікаў, студэнтаў, насельніцтва не прыцягнуты да рэгулярных заняткаў спортам. Як справядліва падкрэслівалася на сходзе ў сталіцы, у Беларусі не хапае трэнераў высокага ўзроўню.

У нацыянальных зборных большасць трэнераў - спецыялісты перадпенсійнага ўзросту, за імі на замену нікога няма. Вартая жалю зарплата маладых трэнераў нізавых ДЮСШ, спартыўных вучылішч, а гэта фундамент будучых дасягненняў. Беларусі яшчэ доўга не атрымаецца на роўных змагацца з сусветнымі грандамі ў хакеі і футболе, бо ў Еўропе і ў Паўночнай Амерыцы ў дзесяткі разоў болей лядовых катков і сучасных стадыёнаў. Там каманды - сапернікі маюць намнога большае фінансаванне і лепшую матэрыяльна-тэхнічную базу. Большасць жа айчынных каманд па гульнявых відах спорту маюць фінансавыя праблемы.

Канешне, добра, што на высокім узроўні адбылася прынцыповая размова і былі акрэслены стратэгічныя аспекты развіцця беларускага спорту. У любой сферы дзейнасці жыць мінулымі дасягненнямі – значыць не думаць пра заўтрашні дзень, пра перспектыву. На стадыёнах, у басейнах і на кортах усе промахі і недапрацоўкі, якіх нямала ў беларускім спартыўным руху, адразу праяўляюцца. Пакуль жа нам можна ганарыцца ўласнымі школамі падрыхтоўкі беларускіх штангістаў, весляроў, фрыстайлістаў. Правільна, што ў першую чаргу былі выпрацаваны падыходы для паляпшэння работы дзіцячых спартыўных школ.

На прайшоўшым алімпійскім сходзе быў перавыбраны склад НАК Беларусі, які прадказальна зноў узначаліў А. Лукашэнка. Ужо ў наступным годзе яго штабкватэра справіць наваселле ў сучасным будынку, да працы ў гэтай структуры прыступілі кваліфікаваныя спецыялісты. Будзем спадзявацца, што абноўленая каманда зможа плённа папрацаваць, каб і ў далейшым умацоўваўся ў свеце спартыўны імідж краіны Беларусі. Перамогі беларускіх атлетаў робяць беларусаў, як нацыю, больш вядомай і паважанай на планеце. Спартсмены іншы раз робяць болей для краіны, чым тыя ж дыпламаты, для развіцця партнёрскіх адносін, для узмацнення духу беларускага народа. І не адзін яшчэ раз парадуюцца ўсе за дасягненні беларусаў у спорце на розных кантынентах свету!

## Беларуская дэлегацыя, магчыма, возьме ўдзел ва ўрачыстасцях у Польшчы, прысвечаных 600-годдзю Грунвальдскай бітвы

**Намеснік міністра культуры Беларусі Тадэвуш Стружэцкі не выключае магчымасці ўдзелу беларускай дэлегацыі ва ўрачыстасцях у Польшчы, прысвечаных 600-годдзю Грунвальдскай бітвы.**

15 красавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску Стружэцкі паведаміў, што пытанне сумеснага святкавання юбілею абмяркоўвалася падчас візіту міністра культуры Польшчы Богдана Здраеўскага ў Мінск у снежні 2009 года, на сустрэчы міністраў культуры Беларусі і Літвы, а таксама ў перапісцы з міністрам культуры Украіны.

«Ёсць дамоўленасць аб тым, што частка мерапрыемстваў будзе праводзіцца сумесна», - зазначыў Стружэцкі.

Паводле яго слоў, міністр культуры Польшчы афіцыйна запрошаны на ўрачыстасці ў Навагрудак (Гродзенская вобласць), далі згоду на ўдзел у іх прадстаўнікі Літвы.

Стружэцкі выказаў надзею, што беларуская дэлегацыя будзе запрошана да ўдзелу ва ўрачыстасцях 15 ліпеня на Грунвальдскім полі.

Начальнік аддзела культуры Навагрудскага райвыканкама Аляксандр Карачан зазначыў, што ў праграму агульнанацыянальнага свята ў гонар 600-годдзя Грунвальдскай бітвы, якое адбудзецца ў горадзе 25-27 чэрвеня, уключана пасяджэнне круглага стала, арганізатарам якога выступіць Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі; выступленні рыцарскіх клубаў Беларусі, Літвы, Расіі і Чэхіі, а таксама дэманстрацыя быту, музыкі і танцаў сярэднявечча.

Паводле яго слоў, актыўны ўдзел у Грунвальдскай бітве прыняла Навагрудская харугва, аб чым сведчыць мемарыяльная дошка ў Навагрудскім фарным касцёле.



Апрача таго, у горадзе напярэдадні бітвы пад Грунвальдам двойчы сустракаліся вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Вітаўт і кароль Польшчы Ягайла, сказаў Карачан. Ён не выключае, што да свята ў гістарычным цэнтры горада на былой Рыначнай плошчы будзе ўзведзены конны манумент заснавальніку і першаму вялікаму князю ВКЛ Міндоўгу.

«Тэрміны і магчымасці дазваляюць гэта зрабіць. Аднак пакуль не вырашана праблема фінансавання пабудовы гэтага помніка з бронзы і граніту, над якім працуе мінскі скульптар Генадзь Буралкін», - зазначыў Карачан.

15 ліпеня 1410 года каля населеных пунктаў Грунвальд і Таненберг (зараз Ольштынскае ваяводства, Польшча) армія Тэўтонскага ордэна была разгромлена аб'яднанымі войскамі Вялікага княства Літоўскага і Польскага каралеўства.

*Марат Гаравы, БелаПАН.*

## У 2011-м Вялікдзень зноў будзем святкаваць супольна

**У наступным, 2011-м, годзе Вялікдзень зноў праваслаўныя, каталікі і пратэстанты адсвяткуюць разам – гэтым разам 24 красавіка.**

Сёлета галоўнае веснавое свята адзначалася 4 красавіка.

За апошнія 100 гадоў Вялікадні супадалі два гады запар толькі ў часы вайны: у 1942 і 1943-х гадах. У 1942 -м яго адзначалі 5 красавіка, у 1943-м - 25 красавіка.

***

У 2012 годзе Вялікдзень паводле грыгарыянскага і юліянскага календара будзе розніцца на тыдзень. Каталікі і пратэстанты адсвяткуюць яго 8 красавіка, праваслаўныя – 15 красавіка.



У 2013 годзе розніца паміж Вялікаднямі складзе ажно пяць тыдняў. Каталікі і пратэстанты будуць адзначаць яго 31 сакавіка, а праваслаўныя – 5 траўня.

У 2014-м Вялікдзень зноў будзе супольным, 20 красавіка. Дарэчы, як і ў 2017 годзе – 16 красавіка. Наступным разам супольна Вялікдзень будзе адзначацца толькі ў 2025 годзе – 20 красавіка.

У 2015 годзе розніца паміж Вялікаднямі складзе тыдзень: 5 і 12 красавіка, у 2016 годзе – больш месяца – 27 сакавіка і 1 траўня.

***

Вікіпедыя падказвае, што каталіцкі і пратэстанцкі Вялікдзень у 45% на тыдзень раней за праваслаўны, у 30% — супадае, 5% розніца ў чатыры тыдні, і 20% — у 5 тыдняў. Розніцы ў два ці тры тыдні не бывае.

## У Вільні ёсць шмат чаго нашага...

■ **Ул. Скрабатун**

Некалі Вільня была нашай сталіцай і абласным (ваяводскім, а потым губернскім) цэнтрам. Нашыя прадзеды хадзілі ў беларускую Мекку пешшу. Але, што казаць, калі Вільня ўжо не нашая. Сталін падарыў Вільню жмудзінам, і яны зрабілі яе сваёй сталіцай. І цяпер туды так проста не патрапіш – патрэбная віза, ды й на вуліцах чуваць ужо чужая мова, могуць і вуліцу паказаць не ў тым баку. Але ў Вільні шмат чаго ёсць! Там – уся глыбоцкая гісторыя. Пасля касацыі кляштара кармелітаў босых у Глыбокім, у Вільню шмат чаго было вывезена, у прыватнасці, яго багатая бібліятэка.

Шкада, але супрацоўнікі нашага музея даўно забыліся на дарогу ў Вільню. Зразумела, любую паездку мусяць фінансаваць і фінансаваць павінна Міністэрства культуры. А грошай няма! Замкі і палацы стаяць у руінах.

Аднак, воляй лёсу ў Вільні апынуліся глыбоцкія студэнты, якія навучаюцца ў Еўрапейскім Гуманітарным Універсітэце. Сярод іх – Надзея Бабіч (цяпер у сужэнстве – Храпавіцкая). Чалавек дарма час у Вільні не губляе. У вольны ад іспытаў і лекцый час – наведвае віленскія архівы і бібліятэкі. Тут ляжаць фаліянты, да якіх толькі праз стагоддзі датыкнулася рука Надзеі. І як тут не сказаць: палку глыбоцкіх краязнаўцаў – прыбыло!

Часам чуеш: «Рукапісы не гараць!» Аднак, не заўсёды ўдумваешся ў сэнс гэтых слоў. Хто б мог падумаць, што і сёння, праз 370 гадоў, яшчэ не выцвілі чарнілы на аркушах, якія падпісаныя ўласнаручна Язэпам Корсакам, уладальнікам Глыбокага, старастам Дзісненскім і ваяводам Мсціслаўскім, фундатарам трох глыбоцкіх храмаў. Так! Усё гэта ёсць у Вільні!

Сёння мы прапануем Вашай увазе дзве ілюстрацыі: справа – вокладка дакумента (назоў дакумента чытайце ў подпісу да ілюстрацыі), злева – фрагмент аднаго з аркушаў дакумента з уласнаручным подпісам Язэпа Корсака.

Што ж, пажадаем Надзеі Бабіч далейшых поспехаў у пошуках «Глыбоцкай Атлантыды»!



**Уверсе, у левым куце – уласнаручны подпіс Язэпа Корсака (J. Korsak, Woiewoda Mscislawsky). Далей – тры пячаткі. Ніжэй – тэкст на польскай мове. Яшчэ ніжэй (праз абзац) – тэкст на старабеларускай мове. Пачынаецца словамі: «Року тисеча шестьсот сорок второго, месяца....»**



No 1

INWENTARY: SPISANIA MAIETNOSCI IASNIE WIELMOZNEGO IEGO MOSCI PANA IOZEPHA KORSAKA WOIEWODY Y STAROSTY MSCISLAWSKIEGO. DZISIENSKIEGO RADOMLSKIEGO KVRYLOWSKIEGO DZERZAWCY HNEZDZILOWSKIEY Y WSZYTKIEY WŁOSCI DO NIEY NALEZACEY, W ROKV 1641. MCA. KWIETNIA DWVNASTEGO DNIA

KTORA TO MAIETNOSC IEGO MOSC ...

**На вокладцы чытаецца: «Інвентары спісання маёмасці Ясна Вяльможнага Яго Мосці Пана Юзафа Корсака Ваяводы і старасты Мсціслаўскага, Дзісненскага, Радамльскага, Курылаўскага, арэндатар Гняздзілаўскай і ўсіх воласцяў што да яе належаць. У року 1641 месяца красавіка дванаццатага дня якую тую маёмасць Яго Мосць Пан Ваявода Мсціслаўскі да Вялебных Айцоў Кармелітаў Босых да Касцёла Глыбоцкага на вечныя часы Фундаваў».**

# Паразуменне так і не знайшлі?

**Алесь Гай,**
г Глыбокае.

**23 сакавіка ў Гарадскім Цэнтры Культуры па ініцыятыве міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету адбылася сустрэча з рыбаловамі-аматарамі Глыбоччыны.**

Сустрэчу гэтую чакалі доўга. Гэты артыкул з'явіўся пасля доўгага роздуму і абмеркавання ў асяродку дзесяткаў рыбаловаў-аматараў.

На пачатку хацелася б ад сябе асабіста і ад рыбаловаў-аматараў выказаць падзяку Аляксею Віктаравічу Протасу за арганізацыю гэтай сустрэчы. Усё ж думалася: сабяре нас начальнік міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету, пагутарыць, і на гэтым – усё. Аднак, атрымалася лепш, чым усе меркавалі. Рыбаловы-аматары былі вельмі ўражаныя, калі ўбачылі ў зале амаль усіх арэндатараў азёраў, прадстаўнікоў праваахоўных органаў, спецыялістаў лягсаса, галоўнага спецыяліста абласнога Дэпартамента па рыбаводству.


Рыбаловы-аматары і арэндатары сабраліся разам.

Ці была гэтая сустрэча, як кажуць у народзе, першым блінам комам? Можа і так. Аднак А.В. Протас заверыў усіх прысутных, што такія сустрэчы будуць ладзіцца не меней аднаго раза на год. І, натуральна, з гэтай сустрэчы будуць зробленыя пэўныя высновы для ўдасканалення арганізацыі будучых сустрэч паміж міжраённай інспекцыяй аховы жывёльнага і расліннага свету, рыбаловамі-аматарамі і арэндатарамі азёраў.

Сустрэча доўжылася дзве з паловай гадзіны і зыходзячы з напоўненасці залы сюды прыйшло не менш ста чалавек. У сваім змястоўным выступе сп. А.В. Протас распавёў аб дзейнасці інспекцыі, колькасці затрыманых браканьераў і складзеных пратаколаў, аб колькасці перададзеных спраў у суд і колькасці пакараных, аб вазе канфіскаванай пазапраўна здабытай рыбы і мяса дзікіх жывёлін, кіламетрах знятых браканьерскіх сетак. Пытанні і адказы.

Дайшла чарга зрабіць справаздачу і арэндатарам. Прыйшлося ім нясоладка. Рыбаловы-аматары, як па камандзе вылілі на іх свой гнеў, вінавачачы ва ўсіх грахах: "Азёры не зарыбляеце, не добраўпарадкаваеце, а плату за рыбалку бярэце! Арэнда – нявыгадная! Навошта тады арэндуеце?"


**Рэакцыя інспектара А.А. Федзічкіна на пытанне з залы: "І хто, хто, там захацеў атрымаць пасведчанне грамадскага інспектара? А памятаеш: колькі я цябе штрафаваў за браканьерства? Не атрымаеш!** *Фота Ул. Скрабатуна.*

Арэндатары паспяхова адбілі "разведку боем" рыбаловаў-аматараў і кожны з іх дэталёва і на фактах адстойваў свой пункт гледжання. Запомніліся выступы арэндатараў Глыбоцкай ПМК меліярацыі, Дзвінскай эксперыментальнай базы, ПУП "Аграбізнескансалт", А.П. Аўласёнка з фермерскай гаспадаркі "Карпікі".

Хацелася б выказаць і свае думкі з нагоды гэтай сустрэчы. Самае галоўнае – такія сустрэчы патрэбныя! Папершае: рыбаловы-аматары пазнаёміліся з арэндатарамі. Па-другое: усе зразумелі, што мы павінны разам берагчы наш цудоўны край Глыбоччыну, яе азёры і рэкі. Ад усіх нас – аматараў прыроды, рыбаловаў-аматараў і арэндатараў – залежыць, што мы пакінем сваім дзецям і ўнукам.

На маю думку, вельмі слушнай з'яўляецца заўвага сп. А.В. Протаса: "Не хочаце плаціць на арэндуемых вадаёмах – ездзіце на іншыя, дзе не бяруць плату за рыбную лоўлю! У нас – толькі чатыры платныя вадаёмы, а азёраў у раёне – 106."

А вось прэтэнзій з боку інспекцыі і арэндатараў вадаёмаў да рыбаловаў-аматараў – яшчэ больш! Сапраўды, альтанкі на азёрах разбураюць і паляць на вогнішчах не рыбаловы-аматары, а адпачываючыя, аднак паглядзіце, што пасля Вас застаецца на лёдзе: процьма шкляных і пластыкавых бутэлек, пакеты ад чыпсаў, семак, пачкі ад цыгарэтаў, акуркі. Шаноўныя рыбаловы-аматары, паглядзіце, што Вы нарабілі з так званым вадаёмам Дамба ў Азерцах. Вось бы Вам усім сабрацца сюды на суботнік і прыбраць тыя горы смецця, якім Вы засцялілі ўсе берагі. Мабыць чакаеце, спадар Протас ці Азярэцкі сельсавет арганізуе ўборку за Вас? Не! Гэта Вы павінныя зрабіць самі. І такія прыклады суботнікаў ёсць у суседняй Латвіі, нават аквалангісты апускаюцца на дно і выцягваюць на бераг усялякае ламачча.

Шмат хто будзе грукаць сябе кулакамі ў грудзі, пераконваючы – я сапраўдны рыбалоў-аматар! Тады скажыце, калі ласка, хто з Вас, на зыходзе зімы, калі быў добры клёў на Дамбе, спыніўся на ўлове ў 5 кг? Ніхто! Нахапалі: хто 10, а хто і 12 кілаграмаў. Памаўчым? Так!

Яшчэ не залішне нагадаць, як у час нерасту, сёлета, у цэнтры горада, на Возеры Кагальным, так званыя рыбаловы-аматары хапалі шчупакоў, нават рукамі.

Вось толькі тады, калі кожны рыбалоў-аматар навядзе парадак сам у сабе, можна патрабаваць ад іншых.


Прамаўляе А.В. Протас.

Калі розныя бакі падыходзяць з рознымі крытэрыямі ацэнкі рэчаіснасці, то ці можна тады знайсці нейкае паразуменне? Не! Нават, калі і можна, то не адразу, а праз некалькі гадоў.

Рыбаловы-аматары так і не зразумелі: чаму арэндатар вадаёма, які яго яшчэ не зарыбіў, ужо мае права ставіць сеткі і лавіць рыбу? Яшчэ адно непаразуменне: чаму ўжо ў першы год арэнды арэндатару даводзяць план вылаву рыбы? І самае балючае: чаму вадаём не зарыблены, а ўжо ў першы год арэндатар мае права браць плату з рыбаловаў-аматараў. Хоць і зачытаў паважаны А.В. Протас новыя палажэнні, аднак ніхто так уцямна і не зразумеў: хто складае і прымае гэтыя палажэнні? Прысутныя былі здзіўленыя арэнднай платай за возера Чачалі. 100000! Шмат каму гэты кошт паказаўся смешным. Аднак, найбольшае абурэнне выклікала паведамленне, што і возера Доўгае перададзена ў арэнду з платным аматарскім рыбалоўствам. Як так сталася, што "перліна Беларусі", "беларускі Байкал у мініяцюры" – аддадзены ў арэнду? Возера Доўгае – самае глыбокае возера краіны – 53,7 м (даўжыня возера –больш 6 км, берагавой лініі – 14,9 км, найбольшая шырыня – 0,7 км). Чыстая і празрыстая вада. Тут водзяцца рэліктавыя віды рачкоў і азёрны від марской корушкі – стынка (па-руску – снеток). Хто пакваліўся і хто аддаў персанальна? Хто вінаваты? – пытанне да праваахоўных органаў. Нагадаю, што возера Доўгае і прыбярэжная тэрыторыя, якая ўключае возера Доўгае і Псуя разам з прылеглымі 3500 гектарамі лясных угоддзяў і сенажацяў, ужо даўно як абвешчаная азёрным заказнікам.

Хацелася б выказаць і ўдзячнасць старшыні райвыканкама А.В. Морхату, што знайшоў час прысутнічаць на гэтай сустрэчы. З яго прамовы бачна, што ён разумее, як вельмі шмат у нашым раёне і гораздзе назапасілася праблемаў. Самая балючая – стан нашых гарадскіх вуліцаў. Старшыня райвыканкама паабяцаў рыбаловам-аматарам разабрацца і з пытаннем законнасці перадачы ў арэнду возера Доўгае і даць у далейшым адказ на пытанне грамадскасці.

Што ж, аўтар гэтага матэрыялу – толькі за паразуменне ва ўсіх пытаннях! І самае галоўнае – такія сустрэчы карысныя і патрэбныя.

# Яўген Самсонаў чакае запрашэнне ад «DEUTSCHE WELLE»



**Фота на памяць: злева направа, аўтар артыкула Яўген Самсонаў, галоўны герой артыкула Сяргей Ханжакоў, Уладзімір Дзюба – галоўны рэдактар часопіса "Абажур", дзеці другога галоўнага героя артыкула – Віктара Храпавіцкага, Галіна і Аляксандр.** *Фота Міхаіла Пастухова, экс-старшыні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь.*

■ **Ірына Грыль**

У г. Мінску адбылося ўрачыстае ўзнагароджанне пераможцаў конкурсу імя Веранікі Чаркасавай. Як раней паведамляла газета "Вольнае Глыбокае", у ліку пераможцаў вышэйзгаданага конкурсу быў наш зямляк Яўген Самсонаў. Яго артыкул «Як узрывалі глушылку», апублікаваны ў часопісе «Абажур» (№ 3, 2009 г.) кампетэнтнае журы, якое ўзначальваў знакаміты беларускі пісьменнік Генадзь Бураўкін, трапіў у лік пераможцаў. Адметнай рысай было тое, што пад час ўрачыстага ўзнагароджавання прысутнічалі галоўныя героі артыкула. У ліку ўзнагарод, акрамя Дыплома і каштоўных падарункаў, Яўгена чакае цікавая вандроўка за мяжу.

Вызначыўся Яўген і ў відэа. Даслаўшы свае відэакліпы "Памяць свята " (пра Ю. Бульку), "Фэст на Дзядку", і "Велiколепная семёрка" (пра гала-канцэрт у г. п. Падсвіллі) на конкурс DW-AKADEMIE, ён трапіў у лік пераможцаў і быў запрошаны на семінар "Відэа для Інтэрнэту".

Некалькі слоў пра DW-AKADEMIE. Гэта арганізацыя з 1965 года забяспечвае медыа-прафесіяналаў з усяго свету пляцоўкай для абмену вопытам, падтрымлівае цесныя сувязі з больш чым 300 дзяржаўнымі, грамадскімі і незалежнымі радыёстанцыямі і тэлеканаламі ў 130 краінах. На сённяшні дзень у ёй прайшлі адукацыю звыш за 20 тысяч медыя-прафесіяналаў з гэтых краін. Семінар "Відэа для Інтэрнэту" праходзіў у Мінскім Міжнародным адукацыйным цэнтры ім. Н. Рау. З 12 удзельнікаў было створана шэсць пар каманд відэажурналістаў. Яны павінны былі стварыць тэматычны дзвюххвілінны відэакліп. Фільм "Прывет з іншых планет" творчасці Таццяны Цуканавай і Яўгена Самсонава па агульнаму меркаванню ўдзельнікаў заваяваў гран-пры. Па заканчэнні семінара Яўген атрымаў Сертыфікат аб паспяховай вучобе па праграме "Відэа для Інтэрнэта" ў DW-AKADEMIE. Яго чакае запрашэнне ад DEUTSCHE WELLE у Германію ў якасці відэа-журналіста для асвятлення аднаго са значных спартыўных мерапрыемстваў.

## Віншаванкі

*Міхаіла Францавіча Янковіча*

(в. Жураўнёва)

**Сардэчна віншуем з юбілеем!**



50- немало, 50-немного.
В 50 открыта мудрости дорога.
Не беда, что мелькают года
И волосы от времени седеют.
Была бы молодой душа,
А молодые души не стареют!

*Сям'я Шчасных*

*Жанну Мамаеву*

**Віншуем з Днём нараджэння!**



Пожеланий наших не счесть,
Так зачем же делить их на части,
Если все они, что ни есть,
Заключаются в слове «счастье».
Желаем, чтоб жизнь никогда не кончалась,
Беда и Печаль на пути не встречались,
Огромного счастья и верных друзей,
Здоровья, успехов и Солнечных Дней!

*Сястра і яе сям'я*

*Творчасць нашых чытачоў*

## 10 красавіка 2010 года

М. Даргель

Звон гудзіць Зыгмантовы,
У трауры Польшча застыла.
Ад Вальбжэга да Аўгустова
Гора краіну накрыла.
Цмок прачнуўся Гальготы-Катыні
Жахам увесь Свет садрыгнуў.
Са сваёй зляцеўшы пякельнай скрыні
Ахвяры, бы ягня, праглынуў.
Цягне зло, бяду за сабою,
Цяжка ўясніць – следства дзе, а дзе прычына,
Кінуты камень можа стаць бядою
Стрэл абуджае гора лавіну.
Раз у год само страляе ружжо,
Кволая жыцця шкарлупіна,
Абыйсці не можаце людзі, няўжо,
Лёсу вашага хвіліну!



# Святары і міністранты спаборнічалі па пейнтболу



**Удзельнікі спаборніцтваў маладыя святары і міністранты Глыбоцкага і Докшыцкага дэканатаў.**



■ **кс. Віктар Місевіч**

**У нядзелю 18 красавіка ў Глыбокім прайшлі спаборніцтвы па пейнтболу паміж камандамі святароў і міністрантаў. У змаганні прымалі ўдзел маладыя святары і міністранты Глыбоцкага і Докшыцкага дэканатаў.**

Пейнтбол адносіцца да экстрымальных відаў спорту, дзе неабходныя не толькі добрая фізічная падрыхтоўка і вытрымка, але і кемлівасць. Для аматараў экстрыму – гэта добры спосаб адпачыць у кампаніі сяброў.

Паводле вынікаў гульні пераможцамі станавіліся то адна, то другая група. Да гонару святароў, трэба сказаць, яны не ўступалі міністрантам у хуткасці, меткасці і адвазе. Спаборніцтва скончылася сяброўскімі размовамі і ўражаннямі ад гульні. Усе прыйшлі да высновы, што неабходна арганізаваць яшчэ раз такую сустрэчу толькі ў больш складаным рэльефе.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

26 красавіка – 2 траўня 2010 г.







## ПАНЯДЗЕЛАК, 26 красавіка




**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.05, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.55** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** В мире моторов.
**09.05** Nota Bene.
**09.35** «ЗВЕЗДНЫЕ ТАНЦЫ». Мужской сезон.
**10.50** OFF STAGE LIFE
**11.05 «Не родись красивой»**
**12.10** «Сталинград».
**13.10 «Освобождение»** Фильм 1-й «Огненная дуга».
**14.45** Хроникально-документальный цикл «Невидимый фронт» (Беларусь).
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.25** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «Папа для галочки».
**16.25 «Огни большого города»**
**17.25 «Не родись красивой»**
**18.25** Видеофильм АТН «Прости меня».
**18.50, 00.00** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55** Ток-шоу «Ответный ход».
**21.00** Панорама.
**21.55** «Объект осо-бого значения».
**22.05 «Застава Жилина»**
**23.10** Фантастический сериал **«Герои-3»**
**00.05** День спорта.




**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10 «На Дериба-совской хорошая погода, или На Брайтон-бич опять идут дожди»**.
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** Продолжение фильма **«На Дери-басовской хоро-шая погода, или На Брайтон-бич опять идутдожди»**.
**12.00** «Малахов+».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять.Простить».
**13.40** «Модныйприговор».
**14.45** «Контрольная закупка».
**15.15** Премьера. **«Иван Подушкин. Джен-тльмен сыска»**.
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Мисс Беларусь - 2010».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20 «Моя прекрасная няня». После свадьбы**





**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.00 «Остаться в живых»**.
**23.00** Наши новости.
**23.15** Новости спорта.
**23.20** «Преступления века».
**23.55** Мотофристайл. Чемпионат мира.
**00.50 «Женаты... с детьми»**.
**01.15** Наши новости.
**01.30-01.40** Новости спорта.




**07.00** ЛАДное утро.
**08.00 «Универ»**
**08.30** Час суда. Дела семейные.
**09.30** В этот день.
**09.35 «Любовь как любовь»**
**10.45** Комедия **«Алекс и Эмма»** (США).
**12.25** «Пра мастацтва».
**12.55** Школа ремонта.
**13.55** Драма «Я помню…»
**15.25** Внеклассный час.
**15.40** Бухта капитанов.
**16.20** Час суда. Дела семейные.
**17.25** Простые упражнения
**18.00 «Любовь как любовь»**
**19.05»Люди Шпака»**
**20.05** Белорусское времечко.
**21.10** Калыханка.
**21.30** Большое сердце.
**22.00 «Универ»**
**22.35** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура.
**23.30** Хоккей. Формула игры.




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро.Студия хоро-шего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.Студия хоро-шего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Ангел-хранитель».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35 «Мачеха»**. Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».





**15.00** «Большой город».
**15.40** «Горячий лед».
**16.05** «Культурная жизнь»
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Добро пожаловаться».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Мачеха»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.20** «Добрый вечер, малыш».
**20.35 «РУССКАЯ ИГРА»**.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичный футбол».
**23.25** «Кино»: **«УБИТЬ БИЛЛА»**. США,

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Ранча Піковая Сямёрка»**, 15 серыя
**17:35** Госць «Белсату»
**17:50 «Арол:** 5 серыя
**18:45** «Верыць толькі ветру», дак. фільм,
**19:15** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19:25 «Прыгоды ката Фі-лемона»**, мультсерыял
**19:35** Еўропа сёння
**20:00** ПраСвет
**20:15** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Пах смерці», дак. фільм,
**21:00** Аб'ектыў
**21:20** Прыватная калекцыя
**21:40** Прэс-экспрэс
**21:55** Моўнік
**22:05 «Метад»**
**00:00** Аб'ектыў

